БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

29 верасня 1994 г.
Чацвер
№ 105(13822)
Кошт у розніцу 10 рублёў
Выдаецца з 1921 года

**У НУМАРЫ:**



*Малюе Віктар ДУБОВІК*






Хадзіць у паходы, лазіць па гарах, валяцца пад промнямі спякотнага сонца на беразе мора — любімы адпачынак кожнага з нас.

Фота Сяргея БРУШКО.

## Кур'ер "ЧЗ"

### Бой халеры

*Кабінет Міністраў вырашыў прыняць падстраховачныя меры ў сувязі з распаўсюджаннем у рэспубліцы халеры. Чакаецца падпісанне пастановы Кабінета Міністраў, сутнасць якой зводзіцца да забароны турыстычных паездак у асобныя рэгіёны былога Саюза, а таксама некаторыя краіны далёкага замежжа.*

Як растлумачыў віцэ-прэм'ер Віктар Ганчар, размова ідзе аб Нікалаеўскай вобласці Украіны, Рэспубліцы Дагестан, Турцыі. Што датычыць іншых турпаездак, то прадугледжваецца шэраг жорсткіх мер, у адпаведнасці з якімі кіраўнікі турыстычных фірм нясуць персанальную адказнасць за гарантаванне бяспечных умоў пражывання турыстаў, уключаючы поўнае пакрыццё магчымага ўрону і заключэння дагавораў страхавання.

### Змрочная будучыня

*Агульны стан няўпэўненасці ў заўтрашнім дні негатыўна адбіваецца і на падрастаючым пакаленні. Як паказала апытанне, праведзенае сацыялагічнай групай педінстытута, 44 працэнты брэсцкіх падлеткаў не бачаць сябе карыснымі грамадству.*

Яшчэ 90 працэнтаў тых, хто адказаў на пытанні анкеты, адчуваюць страх у навакольным свеце, а 60 працэнтаў — не ўпэўнены ў сваёй будучыні. Такая сітуацыя не можа не трывожыць, таму што хутка гэтым маладым людзям прыйдзецца ўступаць у самастойнае жыццё, калі трэба будзе браць адказнасць не толькі за сябе, але і за лёс дзяржавы.

### Школы для беларускіх літоўцаў

*У навучальныя ўстановы не толькі Літвы, але і Беларусі могуць паступаць выпускнікі няпоўнай сярэдняй школы з прыгранічнай вёскі Пеляса Воранаўскага раёна, дзе кампактна пражывае літоўскае насельніцтва, а выкладанне вядзецца на літоўскай мове.*

З новага навучальнага года колькасць вучняў тут павялічылася ў паўтара раза. Такая магчымасць з'явілася дзякуючы інтэрнату, які адкрыўся для дзяцей з аддаленых вёсак. Пабудаваны ён на сродкі з літоўскага бюджэту. За кошт іх узведзены таксама школьны будынак і кватэры для настаўнікаў. А вось у вёсках Рымдзюны і Гярвяты Астравецкага раёна школы, дзе выкладанне для літоўскіх дзяцей таксама вядзецца на іх роднай мове, утрымліваюцца на сродкі мясцовага бюджэту. Дарэчы, ва ўсіх трох школах вывучаюць яшчэ беларускую і замежную мовы.

БЕЛІНФАРМ.

### Наша прэса вымагае экспертызы

*Місія ААН ЮНЕСКО днямі пачала працаваць у Мінску. У двухтыднёвы тэрмін міжнароднымі экспертамі Гербертам Прайсам з Вялікабрытаніі і Бернардам Бегуінам са Швейцарыі, будзе праведзены аналіз становішча ў нацыянальных сродках масавай інфармацыі, будуць даследаваны пытанні іх свабоды і аператыўнасці, а таксама выпрацаваны шляхі паляпшэння іх дзейнасці. Вынікам даследавання павінна з'явіцца выданне, у якім будзе падрабязна расказана аб стане спраў у СМІ Беларусі.*

Даследаванне праводзіцца па просьбе выказанай дэлегацыяй Беларусі на адным з форумаў ЮНЕСКО. За час свайго знаходжання ў Мінску міжнародныя эксперты плануюць сустрэцца з кіраўнікамі прэс-цэнтраў, выдавецтва "Беларускі Дом друку" і Рэспубліканскага прадпрыемства "Белдрук", рэдактарамі дзяржаўных і недзяржаўных перыядычных выданняў, супрацоўнікамі радыёстанцыі "Беларуская маладзёжная", дырэктарамі інфармацыйных агенцтваў рэспублікі і рэгіянальных недзяржаўных тэлекампаній, прафесарска-выкладчыцкім калектывам факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Святлана КУЛІКОВА.

### Няма таго, што раньш было...

*Прыкметна знізіўся за апошні час грузаабарот Беларускай чыгункі. Калі ў верасні мінулага года яна перавозіла 188 тысяч тон у суткі, то сёлета — толькі 152 тысячы.*

Гэтыя лічбы пададуцца яшчэ больш сумнымі, калі ўспомніць, што ў лепшыя часы сутачны грузаабарот нашай чыгункі складаў каля 300 тысяч тон.

(УЛ.ІНФ.)

### Плугамі па "Дружбе"

*У калгасе "Кастрычнік" Сенненскага раёна Віцебскай вобласці адбыўся незвычайны выпадак. У час ворыва зачапілі плугамі трубу нафтаправода "Дружба", якая праходзіць па тэрыторыі Сенненскага і Талачынскага раёнаў. Неадкладна было паведамлена на бліжэйшую нафтаперапрацоўчую станцыю.*

Пры абследаванні выяўлена, што нафтаправод у многіх месцах праходзіць недалёка ад паверхні зямлі. Пагроза пашкоджання рэальная. Між тым, побач населеныя пункты, азёры. Недалёка да бяды. Але адказныя арганізацыі нешта не спяшаюцца заглыбляць нафтаправод. Як кажуць, пакуль гром не грымне, мужык не перахрысціцца.

Уладзімір МІХНО.

### Для тых, хто не баіцца мазалёў

*Невялікі сёння выбар прафесій на вёсцы. Але таму, хто не баіцца мазаля, беспрацоўе не пагражае. Першым у калгасе "Чырвоны дазор" Лельчыцкага раёна гэта пацвердзіў Міхаіл Каўбеня, стаўшы даяром. Шэсць гадоў прапрацаваў ужо на ферме, цяпер ні ў чым не ўступае жанчынам.*

Летась тут узялі па групе кароў яшчэ двое мужчын, якія штодня ад адной рагулі надойваюць малака не менш, чым вопытныя даяркі.

Алесь ЛАРЫЁНАЎ.

### Рэкорд у выцвярэзніку

*Паўтары тысячы маладзечанцаў "наведалі" сёлета мясцовы медвыцвярэзнік.*

Рэкорд паставіў нехта Р., які правёў у гэтай установе 28 начэй.

Мікола КАПЫЛОВІЧ.

### Курсы валют на 28 верасня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 4250 | 4390 | 2720 | 2825 |
| "Прыор" | 4320 | 4400 | 2780 | 2840 |
| "Дукат" | 4200 | 4350 | 2700 | 2800 |

**ВЕСТКІ З ПАРЛАМЕНТА**

# Што дзень наступны нам рыхтуе?

☐ Вольга ШАЎКО, "ЧЗ"

*У аўторак пачала работу шаснаццатая сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.*

Амаль паўтара дня парламент зацвярджаў парадак дня сесіі. У ходзе гэтых дэбатаў адчувалася, што адносіны паміж прэзідэнтам і дэпутатамі наўрад ці можна назваць цёплымі. Апошнія раз-пораз успрымалі выказванні старшыні дзяржавы як замах на паўнамоцтвы заканадаўчай улады, а таму без асаблівых сімпатый адносіліся да прэзідэнцкіх прапаноў. Вярхоўны Савет, напрыклад, не падтрымаў некаторых "людзей прэзідэнта" пры галасаванні за склад сакратарыята сесіі. Парламент не даў згоды і на выключэнне з парадку дня асобных пытанняў, на якім настойваў прэзідэнт. Між іншым, і самім дэпутатам не ўдалося ўнесці на разгляд сесіі шэраг дадатковых прапаноў. У тым ліку праект Закона аб прэзідэнце, пытанне аб мінімальнай заработнай плаце.

Думаецца, што прэзідэнт страціць пэўны ўплыў на парламенцкую аўдыторыю і ў выніку таго, што шэраг дэпутатаў вымушаны былі скласці свае паўнамоцтвы, таму што зараз перайшлі працаваць у прэзідэнцкія структуры. А менавіта сярод гэтых людзей у А.Лукашэнкі было нямала прыхільнікаў у Авальнай зале.

Асноўным пытаннем сесіі, як мяркуецца, стане пытанне рэфармавання эканомікі. Праграму ж неадкладных мер у гэтым напрамку дэпутаты не змаглі атрымаць загадзя, і цяпер ім запатрабуецца некалькі дзён, каб вывучыць дакумент.

Чаго можна чакаць ад бягучай сесіі? На вырашэнне якіх праблем даводзіцца разлічваць грамадству? З гэтых пытанняў пачалася наша кароткая размова са старшынёй Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Уладзімірам Ганчарыкам.

— Калі гаварыць шчыра, то ад гэтага Вярхоўнага Савета я чакаў бы толькі аднаго: прыняць Закон аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета, прызначыць іх дату і на тым скласці свае паўнамоцтвы.

Што тычыць сітуацыі ў грамадстве, то трэба вельмі сур'ёзна абмеркаваць праграму неадкладных мер па выхаду рэспублікі з крызісу, якую вылучыў прэзідэнт.

Федэрацыя прафсаюзаў удзельнічала ў распрацоўцы гэтага дакумента. Аднак я адмовіўся падпісваць праграму ў тым выглядзе, які яна мае. Я падпісаў яе выключна з заўвагамі. У чым яны заключаюцца?

Праграма вельмі жорсткая па параметрах і, галоўнае, у ёй адсутнічаюць паказчыкі ўзроўню жыцця. Не вытрымліваецца асноўная мэта — не дапусціць зніжэння ўзроўню жыцця насельніцтва, на чым настойвалі прафсаюзы ды і пацвярджаў сам прэзідэнт. Але зноў робіцца спроба вырашыць праблемы эканомікі за кошт зніжэння жыццёвага ўзроўню людзей. Такі падыход беспадстаўны, бо дзяржавы, якія нас акружаюць, выглядаюць значна лепей пры тым жа складзе вытворчасці, што і ў нас.

Па-другое, мы канцэптуальна не згодныя з тым, што зноў ідзе размова аб падтрымцы толькі маламаёмных слаёў насельніцтва. Аднак сёння сярэдняя заработная плата параўнялася з мінімальным спажывецкім бюджэтам. Відавочна, што падтрымліваць трэба ўсіх. І вырашыць праблему толькі за кошт падатку на высокааплатных не ўдасца. Значыць, трэба ставіць пытанне ўвогуле аб аплаце працы. Адсюль патрабаванне Федэрацыі прафсаюзаў аб павышэнні мінімальнай заработнай платы, стаўкі першага разраду і натуральнай увязкі іх з вынікамі вытворчасці.

Па-трэцяе, на наш погляд, спроба падагнаць зніжэнне інфляцыі з 50 працэнтаў у жніўні да 10 працэнтаў у студзені, а да канца 1995 года да 1—2 працэнтаў прывядзе да наступнага: стагнацыя вытворчасці, спыненне работы прадпрыемстваў, масавае беспрацоўе, і, зноў-такі, зніжэнне ўзроўню жыцця людзей. Чаму? Таму што мяркуецца выкарыстаць чыста манітарысцкі, арыфметычны падыход. Маўляў, мы не будзем выдаваць крэдыты, падтрымліваць вытворчасць: няхай выплывае як можа.

На мой погляд, праграма павінна быць больш рэалістычнай, утрымліваць механізм рэалізацыі. Вельмі правільныя палажэнні, якія падтрымліваем і мы, існуюць проста як палажэнні. Скажам, у праграме вельмі дакладна распісана, калі і на колькі будуць павышаны тарыфы на камунальныя паслугі, цэны на прадукты і г.д., але зусім адсутнічаюць звесткі аб тым, як жа адэкватна будзе расці зарплата. Я лічу, што праграма патрабуе дапрацоўкі, і Вярхоўны Савет мог бы сказаць сваё слова ў гэтым плане.

Мы не супраць таго, каб цэны адлюстроўвалі не безгаспадарчыя, а рэальныя выдаткі вытворчасці. Аднак давайце будзем ставіць пытанне і аб рэальных выдатках рабочай сілы. А гэта зноў-такі мінімальны спажывецкі бюджэт. Людзі павінны зарабляць, значыць трэба ўсім кампенсаваць выдаткі.

— Як зараз складаюцца ўзаемаадносіны Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі з новымі ўладамі?

— Я думаю, што нашы адносіны перайшлі на больш дзелавую аснову. Мы былі запрошаны ў распрацоўку эканамічнай праграмы, даволі актыўна ўдзельнічалі ў пасяджэннях Савета Бяспекі, шэрагу прэзідэнцкіх нарад. Там мы таксама выказвалі свой пункт гледжання. Часткова нашы прапановы ўлічаны пры разглядзе пытанняў аб падатках, развіццю прадпрымальніцтва.

Увогуле хацелася б перавесці ўзаемаадносіны з органамі ўлады, прадпрымальніцкімі структурамі на прававую аснову, на аснову сацыяльнага партнёрства.

На жаль, сёння пагаджальны савет па працы і сацыяльных пытаннях не дзейнічае, бо створаны новы ўрад і ў ім новыя людзі. Мы ўнеслі прапанову, каб разам з новым складам Кабінета Міністраў пачаць падрыхтоўку генеральнага пагаднення паміж прафсаюзамі, урадам, прадпрымальніцкімі структурамі. Развіццё такіх адносін, пошук кампрамісаў зараз вельмі неабходныя.

Фота Сяргея БРУШКО.

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА



Дзяжурныя па выпуску
перакладчык
Людміла КАХАВЕЦ,
рэдактар
Наталля ВАЛАКІДА.

### "Уорлднэт"

#### НАС ПАКУЛЬ НЕ ЗАПРАШАЮЦЬ

*Германія і Францыя выступаюць за ўваходжанне ўсходнееўрапейскіх дзяржаў у Еўрапейскі саюз.*

Урады гэтых дзяржаў заявілі аб неабходнасці ўстанаўлення эканамічных і палітычных кантактаў з усходнееўрапейскімі дзяржавамі, такімі як Польшча, Венгрыя, Чэхія, Славакія, Балгарыя і Румынія.

#### НАТО ПАПЯРЭДЖВАЕ

*Абвастраецца абстаноўка ў Босніі.*

На мінулым тыдні ваенныя групы сербаў напалі на французскі ваенны эскорт, які, у сваю чаргу, адказаў паветранай атакай супраць сербскіх танкаў. Загінуў адзін французскі салдат. Камандаванне НАТО заявіла, што яго войскі і ў далейшым, не маюць намеру бяздзейнічаць у выпадку ўзброеных нападаў сербаў.

### "Еўраньюс"

#### БЯСЧЫНСТВЫ НАЦЫСТАЎ

*У нямецкім горадзе Брандэнбург група нацыстаў напала на жыхароў Нігерыі.*

6 чалавек былі пакалечаны і кінуты пад поезд, і толькі аднаму з іх удалося выратавацца. 5 дзён пацярпеўшы знаходзіўся у каматозным стане. Да гэтага часу яго жыццё пад пагрозай.

#### АЭС ЗАСЦЕРАГЛІ АД НЕБЯСПЕКІ. ПАКУЛЬ ДАГАВОРАМ

*24 дзяржавы падпісалі ў Вене дагавор аб бяспечным выкарыстанні атамных станцый.*

Краіны, якія падпісалі дагавор, абавязаліся выконваць усе правілы бяспекі на АЭС, а таксама выкарыстоўваць свае фінансавыя зберажэнні для ліквідацыі розных непаладак на атамных станцыях.

#### ТРАНЗІТ МІЖВОЛІ

*33 в'етнамскія бежанцы былі дастаўлены на радзіму з Ганконга.*

### "Суперчэннэл"

Гэта першы транспартны перавоз бежанцаў дамоў пасля 6-месячнай антыв'етнамскай палітыкі Ганконга, праводзімай у адносінах да бежанцаў. Два в'етнамцы выказалі пратэст супраць свайго насільнага вяртання на радзіму.

#### А НАФТА ЦЯЧЭ ...

*8 еўрапейскіх арганізацый выдзелілі Азербайджану 10 мільярдаў марак для здабычы нафты з Каспійскага мора.*

На гэтыя грошы ўжо здабыта 5 мільёнаў тон нафты. Азербайджан разлічвае атрымаць ад еўрапейскіх краін яшчэ 50 мільярдаў марак. Расія крытыкуе "манапольную" нафтавую палітыку Азербайджана, таму што лічыць, што каспійская нафта неабходная для ўсіх дзяржаў, якія размешчаны вакол Каспійскага мора.

### "TV-5"

#### ЕЎРОПА БАГАТАЯ ДУХОЎНА

*Кароль Бельгіі Альберт II наведаў Іспанію.*

У час сустрэчы з іспанскім урадам ён выказаў неспакой у сувязі з ростам нацыяналізму ў краінах Еўропы. Вялікая ўвага ў час гутаркі была ўдзелена таксама культурнаму развіццю гэтых краін. Кароль Бельгіі лічыць, што разнастайнасць культур — багацце Еўропы.

(Працяг на 3-й стар.).

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

